НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# ЗАЯВА народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь апазіцыі БНФ і Дэмакратычнага клуба

1 ліпеня г.г. на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі наменклатурна-камуністычнай большасцю было пастаўлена пытанне аб даверы Старшыні Вярхоўнага Савета С.С.Шушкевічу. Са шматлікімі парушэннямі рэгламенту, пры адсутнасці ў зале неабходнага кворуму гэта пытанне было працягнута на тайнае галасаванне, якое ўрэшце адбылося, зноў жа з грубымі парушэннямі вызначанай законам працэдуры. Па сутнасці гэта было нішто іншае, як спроба камуністычнага парламенцкага перавароту найбольш рэакцыйнымі сіламі.

У дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі ёсць шмат заўваг і прэтэнзій да сп. С.С.Шушкевіча і яго дзейнасці на высокай дзяржаўнай пасадзе. І апазіцыя БНФ, і іншыя дэпутаты Дэмакратычнага клуба не падтрымліваюць яго за беспрынцыповае згодніцтва з камуністычна-наменклатурнай большасцю, якая і паставіла пытанне аб яго зняцці. Але ў сённяшняй сітуацыі адхіленне С.Шушкевіча ад пасады азначала б неабмежаваную канцэнтрацыю ўлады і ўсіх органаў кантролю за ўладай (у тым ліку і КДБ) у руках адной структуры — Савета Міністраў, палітыка якога не вызначаецца кампетэнтнасцю і дальнабачнасцю, клопатам пра дзяржаўную незалежнасць і доўгатэрміновыя інтарэсы народа Беларусі.

У гэтых абставінах дэмакратычная меншасць народных дэпутатаў Беларусі адмовілася прымаць удзел у палітычным фарсе галасавання пра давер да Старшыні Вярхоўнага Савета, тым больш што вынікі галасавання з-за адсутнасці кворуму не маглі мець ніякай юрыдычнай сілы.

У бліжэйшы час дэпутатамі наменклатурнай большасці, магчыма, будуць зроблены новыя спробы пазбыцца ўсялякага кантролю за іх дзейнасцю і дзейнасцю ўрада, у тым ліку і з дапамогай зняцця з пасады сённяшняга Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі і замены яго больш надзейнай для іх фігурай.

У гэтай сітуацыі мы лічым, што адзіным выйсцем з палітычнага крызісу і супрацьдзеяннем наступу наменклатурных антыбеларускіх артадоксаў было б абвяшчэнне Старшынёй Вярхоўнага Савета ініцыятывы аб пастаноўцы на ўсенароднае галасаванне фармулёўкі незаконна забароненага 29 кастрычніка 1992 г. Вярхоўным Саветам рэферэндуму пра нечарговыя выбары і роспуск гэтага Вярхоўнага Савета. За правядзенне рэферэндуму паставілі подпісы звыш 442 тысяч грамадзян.

Акрамя таго, на рэферэндум павінна быць пастаўлена пытанне пра нейтралітэт і ўступленне (ці неўступленне) у калектыўную бяспеку, а таксама пытанне пра ўсенародныя выбары кіраўнікоў мясцовых органаў улады.

Любыя іншыя дзеянні непазбежна прывядуць да канчатковай ліквідацыі магчымасцей нашага самастойнага дзяржаўнага развіцця, да поўнага раскрадання і знішчэння нацыянальнага багацця Беларусі.

У выпадку далейшага згодніцтва і нерашучых дзеянняў Старшыні Вярхоўнага Савета апазіцыя БНФ і іншыя дэпутаты дэмакратычнай арыентацыі ўжо наўрад ці будуць падтрымліваць яго і эфектыўна запабягаць гвалтоўным зменам у кіраўніцтве Вярхоўнага Савета.

**Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:**
**З.ПАЗЬНЯК, У.ЗАБЛОЦКІ, І.ПЫРХ, Л.ЗДАНЕВІЧ, В.МАЛАШКА, Я.НОВІКАЎ, С.АНТОНЧЫК, П.ХОЛАД, А.ШУТ, В.ГОЛУБЕЎ, Б.ГЮНТАР, Л.ТАРАСЕНКА, В.ШАЧАК, У.НОВІК, Я.ЦУМАРАЎ, В.АЛАМПІЕЎ, С.БАБАЧОНАК, М.СЛЯМНЁЎ, Г.МАІСЕЕЎ, Э.БАГАЎЦОЎ, А.БАРЫСЕНКА, Ул.ХВОШЧ, М.КРЫЖАНОЎСКІ, А.ВЯРЦІНСКІ, І.ПАЛАГЕЧА, М.АКСАМІТ, А.КУЗЬМА, А.ПАРУЛЬ, І.СЯМАШКА, Э.СПІГЛАЗАЎ, В.ДАЛГАЛЁЎ, М.КАЛБАСКА, Я.ГЛУШКЕВІЧ, П.ДРАГАН, В.КАКОЎКА, С.БЯРДАЎЦАЎ, А.ШЫПКО, А.ЛЕТКА, А.ДАЎЛЮД, Г.СЯМДЗЯНАВА, Г.НІКІЦІН, Ю.БЕЛЕНЬКІ, А.ТРУСАЎ, Г.ГРУШАВЫ, Л.БАРШЧЭЎСКІ, А.ЛЯБЕДЗЬКА, Л.ДЗЕЙКА; Р.ВЯЧЭРСКІ.**



# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС *ІНТЭРФАКС *НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

## *Пульс дня*

### "Сямёрка" параілася і раз'ехалася

**Прыняццем эканамічнай дэкларацыі ў такійскім палацы "Акасака" завяршылася нарада кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў сямі вядучых індустрыяльна развітых дзяржаў.**

Лідэры ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Канады, Францыі і Японіі заявілі аб прыхільнасці глабальнаму эканамічнаму росту, працягу падтрымкі працэсу пераўтварэнняў у Расіі і іншых былых сацыялістычных дзяржавах.

### Доларавыя "ўліванні" ў Расію працягваюцца

**Лідэры "сямёркі" дасягнулі дамоўленасці аб выдзяленні 3 мільярдаў долараў на рэалізацыю праграмы садзейнічання прыватызацыі.**

### Акцыя пратэсту

**Як вядома, каля 50 курдскіх жанчын захапілі днямі памяшканне прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Боне.**

Гэта акцыя, як указваюць яе арганізатары, — знак пратэсту супраць злачынстваў, якія ажыццяўляюцца Турцыяй у адносінах да курдскага насельніцтва.

### Жанчыне далі пакамандаваць. Ваеннай базай

**Упершыню ў гісторыі ЗША камандавацъ ваенна-марской базай прызначана жанчына — контр-адмірал Луіза Уілмат.**

Яна прыняла філадэльфійскую базу — адну з самых старых на тэрыторыі ЗША. Праўда, камандаваць ёю контр-адмірал будзе нядоўга: гэта база, паводле плана Пентагона, будзе закрыта ў верасні 1995 года.

### Супрацоўнічаць будуць. Саюзнічаць — не

**Азербайджан выступае за развіццё эканамічнага супрацоўніцтва з краінамі СНД, заявіў намеснік прэм'ер-міністра Азербайджана Расул Гуліеў на прэс-канферэнцыі ў Стамбуле.**

Р.Гуліеў адзначыў, што ў той жа час Азербайджан не збіраецца ўступаць у палітычны і ваенны саюз Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

### Малдова: фінансы спяваюць рамансы

**Дэфіцыт бюджэту Малдовы да канца бягучага года можа дасягнуць 122 мільярдаў рублёў.**

Такія вынікі разлікаў да праекта закона аб бюджэце на другое паўгоддзе, які разглядаецца ва ўрадзе рэспублікі.

### Кветкам жывецца лепш, чым людзям

**Кветкаводы пакінулі без вады непальскую сталіцу — такое абвінавачанне прад'явіла днямі аматарам прыроды мясцовая карпарацыя камунальнай гаспадаркі, якая ў гэта сухое лета аказалася няздольнай напаіць насельніцтва вялікай даліны Катманду.**

"Людзі пакутуюць ад смагі і эканомяць літаральна кожны глыток, аднак кветкаводы працягваюць паліваць свае кветкі", — з абурэннем заявіў мясцовай газеце "Райзінг Непал" адзін з адказных работнікаў гэтай карпарацыі.

### Суддзя звольнены за ... дрэнны почырк

**За дрэнны почырк быў звольнены з работы галоўны суддзя зімбабвійскага горада Мутарэ Рой Вільсан. Такое рашэнне ўлады рэспублікі на поўдні Афрыкі прынялі, абвінаваціўшы яго ў "парушэнні службовых абавязкаў".**

Як прызнаўся сам Р.Вільсан, ён з цяжкасцю разбіраў зробленыя ім стэнаграмы судовых пасяджэнняў, але важкіх падстаў для адхілення яго ад любімай справы не бачыць.

## Бегемот — таксама хатняя жывёла

**Хто заводзіць сабе сабаку, хто — ката, а белыя жыхары Зімбабве Тэрэза і Гары Уорт — маленькую бегемоціху.**

Шасцімесячная Хіпі жыве ў іх на ферме, размешчанай на паўднёвым захадзе гэтай паўднёваафрыканскай краіны. Яна гуляе з дзецьмі, выпівае штодзённа два з палавінай літры малака, а калі гаспадары абедаюць, разам з кошкамі забіраецца пад стол.

Жывёле было ўсяго некалькі дзён, калі паляўнічы выпадкова забіў яго маці. На першым часе Хіпі адмаўлялася спаць на вуліцы, і ёй зрабілі матрац. Цяпер яна згодна праводзіць ночы на свежым паветры, але ў шэсць гадзін раніцы абавязкова стукаецца ў дзверы.

Спачатку ў Хіпі была вага 14 кілаграмаў, а даўжыня — 90 сантыметраў. Цяпер яна дасягнула даўжыні паўтара метра і працягвае расці. А таму гаспадары падумваюць аб тым, што праз год Хіпі давядзецца адсяліць у вадаём, які маецца на ферме.

## Не имей сто рублей, а имей один ручей!

**Ручей шириной менее метра стал подлинным Клондайком для белого южноафриканца Скалка Преториуса. В течение двух лет он сколотил многомиллионное состояние, добывая на своей ферме площадью три гектара в районе города Карлтонвилл драгоценный металл. Его приносил в пруд мутный водный поток, протекающий рядом с золотодобывающей шахтой "Элансранд", которой владеет корпорация "Англо-Америкэн".**

Теперь корпорация рассчитывает доказать через суд, что попавшее в ручей золото по праву принадлежит ей. Но хитрый фермер, который год назад продал хозяйство, хотя и признает, что "находил коекакое золотишко", упорно хранит в тайне свои трудовые показатели. А вот южноафриканская газета "Санди стар" полагает, что его прибыль составляла ежемесячно миллион рандов (более 300 тыс. долларов).

## *Незвычайны ракурс*



## Па вуліцы слана вазілі...

Калі дошкі-скейтборды вытрымліваюць вагу трохтоннай сланіхі, значыць, яны надзейныя для эксплуатацыі больш лёгкімі істотамі. Дзецьмі, напрыклад. Што і было даказана ў ходзе эксперымента, у якім удзельнічалі сямігадовая Кіці Робертс і яе трохгадовы брат Бобі. Ну, і, вядома ж, сланіха Морын. Усе яны маюць адносіны да цырка ў англійскім горадзе Полбрук, у якім працуюць бацька дзяцей і сланіха Морын. І калі мясцоваму вытворцу скейтбордаў спатрэбілася выпрабаваць на трываласць сваю прадукцыю, лепшых кандыдатаў, чым гэта тройца на здымку, было не адшукаць.

## *Хочаце — верце, хочаце — не*

# Знакі задыяка абяцаюць...

... **АВЕНУ** (21 сакавіка — 20 красавіка) — новыя сустрэчы і знаёмствы. Ёсць верагоднасць, што ў вашым жыцці паявіцца чалавек, здольны перавярнуць ваш светапогляд. Фінансавых паступленняў не чакаецца, але вы атрымаеце некалькі слушных парад наконт таго, як выправіць матэрыяльны дабрабыт, з боку блізкіх сваякоў.

Спрыяльны дзень — 17 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 12-га.

... **ЦЯЛЬЦУ** (21 красавіка — 21 мая) — фінансавы крызіс. Хатнія праблемы запатрабуюць вялізных затрат. Лепшым выйсцем са становішча будзе своечасова аформлены крэдыт. Дзелавая актыўнасць не прынясе рэальных вынікаў.

Спрыяльныя дні — 13 і 17 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 12 і 16-га.

... **БЛІЗНЯТАМ** (22 мая — 21 чэрвеня) — праблемы са здароўем. Гэта звязана з няўстойлівымі пагоднымі ўмовамі. Так што выхадныя лепш правесці дома, не спяшайцеся на прыроду. Пастарайцеся пазбягаць перагрузак на рабоце.

Спрыяльны дзень — 16 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 13-га.

... **РАКУ** (22 чэрвеня — 22 ліпеня) — крутыя перамены ў асабістым жыцці. Для закаханых — час падумаць пра вяселле, а для мужа і жонкі, якія ўжо ненавідзяць адзін аднаго, — пра развод. Не рэкамендуем фліртаваць на рабоце. Магчыма ўспышка дзелавой актыўнасці.

Спрыяльныя дні — 14 і 18 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 12 і 16-га.

... **ІЛЬВУ** (23 ліпеня — 23 жніўня) — сямейнае шчасце. Усе хатнія праблемы вырашацца адразу самі па сабе. Тое, што раней здавалася трагічным, стане смешным. Вас кахаюць і чакаюць узаемнасці. Магчымы некаторыя фінансавыя цяжкасці, якія лёгка пераадолеюцца.

Спрыяльны дзень — 15 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 13-га.

... **ДЗЕВЕ** (24 жніўня — 23 верасня) — далёкую дарогу. Магчыма доўгая камандзіроўка, паездка ў госці ці на адпачынак да мора. Запатрабуюцца вялікія фінансавыя затраты, але канчатковая мэта іх апраўдвае. У сям'і не выключаны канфлікты паміж бацькамі і дзецьмі.

Спрыяльныя дні — 14 і 18 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 12 і 15-га.

... **ШАЛЯМ** (24 верасня — 22 кастрычніка) — перыяд складаных і карпатлівых спраў. Акаляючая вас абстаноўка запатрабуе аддачы ўсіх маральных і фізічных сіл, каб апынуцца "на кані". Магчымы інтрыгі ворагаў і зайздроснікаў. Паболей давярайце родным і блізкім.

Спрыяльны дзень — 16 ліпеня. Неспрыяльны — 13-га.

... **СКАРПІЁНУ** (23 кастрычніка — 21 лістапада) — вялікую ўдачу ў бізнесе. Вам удасца зрабіць тое, аб чым вы марылі апошнія месяцы. Фартуна прыхільная да вас. Падтрымка каханага чалавека будзе дарэчы. Толькі не заводзьце сумніцельных знаёмстваў.

Спрыяльныя дні — 13 і 18 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 12 і 15-га.

... **СТРАЛЬЦУ** (22 лістапада — 20 снежня) — вялікую няўдачу. Вы можаце аказацца ахвярай вялікай інтрыгі людзей, якім вы давяраеце. Не выключана здрада каханага чалавека. Звярніцеся за падтрымкай да старога вернага сябра. Не заключайце здзелак.

Спрыяльны дзень — 15 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 14 і 18-га.

... **КАЗЯРОГУ** (21 снежня — 20 студзеня) — спакойны час. Ніякіх сур'ёзных узрушэнняў не прадбачыцца. Не старайцеся нешта мяняць у сваім жыцці, гэта ўсё роўна ні да чаго добрага не прывядзе. Дзеля разнастайнасці не пашкодзіць лёгкі флірт.

Спрыяльныя дні — 14 і 17 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 15-га.

... **ВАДАЛЕЮ** (21 студзеня — 19 лютага) — нечаканую ўдачу. Магчымы выйгрыш у латарэю ці спадчына багатага сваяка. Небывалы ўздым назіраецца ў творчых людзей. Можа, вы нарэшце зразумееце сэнс усяго свайго жыцця. Не адмаўляйцеся ад кахання з першага погляду.

Спрыяльны дзень — 16 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 12-га.

... **РЫБАМ** (20 лютага — 20 сакавіка) — вельмі хуткае вырашэнне ўсіх надзённых праблем. Пачынаецца перыяд цікавых сустрэч і прапаноў. Выбірайце ўсё лепшае з лепшых. Магчымы буйныя фінансавыя паступленні, а ў сувязі з гэтым не выключана вялікая пакупка.

Спрыяльныя дні — 14 і 17 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 12- і 15-га.

### *Надвор'е*

Сёння днём па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску — 20—22, Магілёве — 21—23, Гомелі, Мінску — 22-24, Гродне, Брэсце — 24—26 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца вельмі цёплае надвор'е. 11 ліпеня па крайняму паўднёваму захаду, 12-га — па паўднёва-заходняй палавіне пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ноччу — 12—17, днём — 24—29, 12 ліпеня па захаду — 19—24 градусы цяпла.

### *Астранамічны каляндар — 10.07*

Узыход і заход сонца: Мінск — 4.49, 21.38; Віцебск — 4.32, 21.36; Магілёў — 4.39, 21.28; Гомель — 4.46, 21.16; Гродна — 5.07, 21.51; Брэст — 5.16, 21.44.

Даўжыня дня ў Мінску — 16.49. Апошняя квадра — 12 ліпеня.

## *Давайце ўдакладнім*

# Канстытуцыю на рэферэндум выносіць нельга

У нумары "Народнай газеты" ад 8 ліпеня гэтага года ў публікацыі "Пакуль не будуць праведзены дэмакратычныя выбары" (аўтар І.Філіпенка) мне прыпісаны кампраметуючыя мяне словы, якіх я ніколі не гаварыў. Менавіта: "адзіным выхадам з крызісу, на думку Зянона Пазьняка, з'явіцца толькі агульнанародны рэферэндум, на які трэба вынесці новую дэмакратычную Канстытуцыю".

Канстытуцыю на рэферэндум выносіць нельга, і гэта ведае на Беларусі кожны, хто хоць трохі мае дачыненне да палітыкі. Магчыма, гэтая дэзінфармацыя з'явілася з-за недасканалай працы журналіста. Бо ў іншым месцы гэтага матэрыялу ён прыводзіць цытату з майго выступлення і абрывае яе на палове, што прывяло да сутнаснага скажэння зместу. Там, дзе я выказваю меркаванне аб магчымых давыбарах у Раду БНР пры пэўных палітычных абставінах, журналістам апушчана, што давыбары ў Раду павінны быць ад дэмакратычных арганізацый **метраполіі** (г.зн. Беларусі). Размова ідзе не аб эміграцыйным урадзе.

Такая "палітычная інфармацыя" ў корані скажае сутнасць справы.

**Зянон ПАЗЬНЯК,
народны дэпутат Беларусі.**

# Кроссворд

**Василий ДЕРМИЛЕВ,
г.Минск.**



ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 7. Столбец типографского набора с произвольным числом строк. 9. Построение в шеренге по росту. 10. Веревка со скользящей петлей для ловли животных. 11. Единица объема в системе английских мер. 12. Двухслойный рулонный влагостойкий материал для покрытия полов. 13. Политический и государственный деятель Индии XIX—XX вв. 14. Эластичная струна, стягивающая концы лука. 17. Река в России, приток Хопра. 20. Режущий инструмент в металло- и деревообработке. 21. Порода длинношерстных легавых охотничьих собак. 23. Состояние напряжения, возникающее у человека или животного под влиянием сильных воздействий. 26. Лесная птица отряда воробьиных. 28. Древнеримский император. 29. Вид гравюры на металле. 31. Небольшое судно. 32. Соревнования по автомобильному спорту. 33. Дипломатическое представительство. 34. Сборка и установка сооружений, конструкций, оборудования.

ПО ВЕРТИКАЛИ: 1. Судовой колокол. 2. Старинная золотая монета стран мусульманского Востока. 3. Одно из шести чувств. 4. Областной центр в России. 5. Относительно узкое водное пространство, разделяющее участки суши и соединяющее смежные водные бассейны. 6. Самолет с двумя крыльями, расположенными одно над другим по обе стороны фюзеляжа. 8. Русский советский поэт. 15. Продукт труда, произведенный для продажи. 16. Возбудитель инфекционных заболеваний. 18. Несущая конструкция, каркас, опорная часть сооружения, устройства. 19. Световой фон вокруг изображения источника света. 22. Нравственность. 24. Взрывчатое вещество. 25. Основной предмет в ряде видов спорта. 26. Внутренняя оболочка стенки кровеносных сосудов. 27. Титул правителя Украины и главы казацкого войска в XVII—XVIII вв. 30. Опера Пуччини. 31. Река в Псковской,Калининской и Новгородской областях.

### Ответы на кроссворд, опубликованный 3 июня 1993 г.

**По горизонтали:** 6. Фалеристика. 9. Скутер. 10. Имамат. 13. Вишня. 14. Критика. 15. Тариф. 18. Сенкаку. 21. Балаган. 22. Гараж. 23. Капонир. 24. Манжета. 25. Ватин. 26. Боливар. 28. Балатон. 33. Тикси. 34. Пароход. 35. Алжир. 38. Клюква. 39. Октант. 40. Палеография.

**По вертикали:** 1. Карта. 2. Герреро. 3. Диаметр. 4. Отливка. 5. Оклад. 7. Акинак. 8. Салака. 11. Минералогия. 12. Филантропия. 16. Акрилан. 17. Караван. 19. Парад. 20. Барий. 27. Инсула. 29. Атлант. 30. Парапет. 31. Вохтога. 32. Водопад. 36. Аксай. 37. "Стоик".

# СПРОСИТЕ ЮРУ

## За червонцем погонишься — два "зайца" поймаешь?

*По решению народного суда за нанесенное мне трудовое увечье из России на мою сберкнижку перечисляют деньги. Слышал, что за каждый российский червонец в Беларуси выплачивают два "зайца". Так ли это?*

***В.ЖУКОВ.***
*г.Минск.*

Ваши червонцы в цене не выросли. Так мне сказали в Национальном банке Беларуси. Повышающий коэффициент пока лишь касается экспортной выручки белорусских предприятий. И то речь идет лишь о безналичных "зайцах". Например, если тот же "Горизонт" выручит в России на продаже своих телевизоров 10 млн. рублей, то в Беларуси на его счету уже будет 18 млн. белорусских "зайцев". Курс безналичного белорусского "зайца" к безналичному российскому рублю определяется на бирже.

## Дубинка в руке — закон в шоке

*По случаю купил электрошоковую дубинку. Потом опомнился, может, на ее ношение требуется специальное разрешение? А без него милиция возьмет и конфискует мое спецсредство.*

***Валерий УВАРОВСКИЙ.***
*г.Минск.*

По словам начальника разрешительной системы МВД Беларуси В.Логинова, их служба не контролирует наличие таких дубинок у населения. Законом не запрещено их ношение. А применение? Тут уж все зависит от обстоятельств дела. Главное, чтобы вы "шокировали" не в целях совершения преступления.

## Слава, Слава — грошы, грошы?

*Юра, куда пропал певец Ярослав Евдокимов? То ходили слухи, что он переехал жить на Украину. А недавно один из еженедельников написал, что Евдокимов метит в москвичи, так как после творческого разрыва с композитором Игорем Лученком в Минске его "достали" телефонными звонками.*

***Антонина КЛИМОВИЧ.***
*Гомельская область.*

Уже несколько лет я не слышал новых песен Евдокимова. Да что новые, стали редки и любимые многими "Колодец", "За Дунаем зреет виноград". И вот "7 дней" с многочисленными намеками приоткрыли завесу молчания о Евдокимове. К сожалению, мне не удалось разыскать самого певца. В Мингорсправке не дают номер его телефона. А вот от людей, некогда общавшихся с ним, узнал, что несколько лет назад, после присвоения звания народного артиста Беларуси, Евдокимов в одном печатном издании признался, что в республике нет композиторов, способных написать для него песню. Вполне понятно, что это утверждение сильно покоробило белорусских мелодистов и отбило у них охоту общаться с народной "звездой". И в первую очередь у Игоря Лученка, выведшего Евдокимова из тени белорусской эстрады на всесоюзный музыкальный Олимп. Лученок быстро нашел замену Евдокимову из не менее талантливой молодежи. А Ярослав? По слухам, некоторое время работал в Ивано-Франковской филармонии, теперь вот грезит о подмосковном Переделкино. Да, еще ходит в околомузыкальных кругах о Евдокимове эпиграмма Александра Легчилова: Слава, Слава. Грошы, грошы. А калісьці ж быў харошы. Быў галодны, быў народны, а з грашыма стаў бязродны.

## Комар пищит. Хлопушки к бою?

*Скажи, как избавиться от городских комаров? Нашу девятиэтажку уже несколько месяцев атакуют эти кровопийцы. Вроде и леса рядом нет, и вода далеко, и окна закрываем — все напрасно.*

***Анастасия БРАЗИЛОВИЧ.***
*г.Минск.*

Не вы одна страдаете от этих тварей. На начало года в Минске числилось 129 комариноопасных домов.

Причина появления городских комаров (кулексов) в вашем доме скорее всего в подтоплении подвальных помещений из-за неисправностей трубопроводов или высокого уровня грунтовых вод. А порой хватает метровой лужи, чтобы весь дом чесался от кулекса. Пьют кровушку самки и откладывают яйца на воду. Эффективно с ними можно бороться, лишь высушив подвалы. Поэтому обратитесь в ЖЭС. Там должны позаботиться о ликвидации источника влаги и вызвать на подмогу специалистов из городской дезинфекционно-профилактической станции. Кстати, кулексы могут "подарить" своим "донорам" возбудителей энцефалита и лихорадки.

## Иждивенцам завещание не указ?

*Мама-покойница завещала свой дом мне и младшему брату. Но наш старший брат, не включенный в число наследников, только смеется. Уверяет, что по закону и ему положена часть наследства? Неужели государство может изменить волю завещателя?*

***Валентина Г-ва.***
*Минская область.*

Завещатель свободен в распоряжении своим имуществом. Гражданский кодекс Беларуси устанавливает лишь небольшие ограничения. Например, часть наследства в любом случае сохранится за несовершеннолетними детьми наследодателя, нетрудоспособным супругом и другими иждивенцами. Они наследуют не менее двух третей доли, которая причиталась бы каждому из них, будь их имена в завещании.

## Фиксу поставил — сон потерял?

*Сейчас ставят зубные коронки из разнообразных материалов. Но совместимы ли они между собой?*

***Виктор ВИКЕНТЬЕВ.***
*г.Жодино.*

Еще десять лет назад люди не страдали от наличия во рту зубных протезов из разных металлов. Сейчас страдающих столько, что пришлось открыть лабораторию для научного изучения проблемы. Кто-то из специалистов видит причину в неблагоприятной экологической обстановке, Чернобыле. Пока известно, что разнородность металлов создает условия для вымывания слюной из зубных коронок ионов металла. С пищей они попадают внутрь организма и могут образовывать в крови аллергены. И человек, например, может покрываться красными пятнами. Врачи иногда и не подозревают, что причина аллергии кроется во рту. По мнению заведующего кафедрой ортопедической стоматологии Минского мединститута профессора Леонида Величко, сегодня наименее опасны золотые протезы. Их можно совмещать лишь с серебряно-палладиевыми сплавами. Остальные металлы совмещать нежелательно! Исключение составляют лишь здоровые люди, несклонные к аллергическим реакциям, и то после предупреждения о возможном дискомфорте во рту, нарушениях сна и даже аллергии.

## "Набат" — лотерея беспроигрышная

*Видел в продаже билеты лотереи "Набат". Внешне — тот же "Спринт". Но купить билет не рискнул, вдруг кооперативная — выиграешь, а деньги не получишь. Да и не слышал ничего я об этой лотерее. А ты?*

***Сергей ВИХОРЦЕВ.***
*г.Минск.*

Я тоже. Пришлось навести справки, и оказалось, что кооператоры тут ни при чем. Проводят белорусскую республиканскую благотворительную лотерею "Набат" серьезные организации — Госкомчернобыль и Белорусский союз участников ликвидации последствий катастрофы на ЧАЭС. Так что можно смело платить 25 рублей за билетик "Набата" и, если повезет, получить 2-миллионный выигрыш. В любом случае выиграют чернобыльцы, выиграем все мы, поскольку вырученные деньги пойдут на материальную и медицинскую помощь пострадавшим от катастрофы и на мероприятия по преодолению ее последствий.

**Рубрику ведет Юрий НОЯРОВИЧ.**

